# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 7 (194)
ліпень 2018

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"





# ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

Першы З'езд беларусаў свету ў Мінску ў 1993 г. стаўся знакавай падзеяй у айчыннай гісторыі, своеасаблівым сімвалам аб'яднання падзеленай і дзяржаўнымі, і ідэалагічнымі межамі нацыі.

Аднак можна казаць пра тое, што на пачатку 1990-х гг. падзел існаваў не толькі па лініі метраполія – дыяспара, але і ўнутры самога замежжа. Паводле звестак мандатнай камісіі, 255 чалавек на З'ездзе прадстаўлялі суродзічаў у краінах Захаду (Аргентына, Аўстралія, Бельгія, Вялікабрытанія, Канада, ЗША, Нямеччына, Францыя і інш.) – г. зв. "далёкае замежжа" і 235 чалавек – беларусаў на прасторах былога СССР – "блізкае замежжа". Гэтае размежаванне на "далёкае" і "блізкае" замежжа мела не толькі геаграфічнае, але і сэнсавае значэнне.

У заходніх краінах беларускія грамады былі запачаткаваныя найбольш паваеннай эміграцыяй, людзьмі антыкамуністычнай скіраванасці, што цягам амаль паўстагоддзя свайго жыцця ў замежжы, як маглі, спрыялі знішчэнню Савецкага Саюзу і з'яўленню незалежнай Беларусі. Гэтыя суполкі рознымі спосабамі прапагандавалі беларускую гісторыю і культуру на Захадзе, намагаліся падтрымоўваць праявы дысідэнцтва і розныя нефармальныя групы і ініцыятывы на Бацькаўшчыне, захоўвалі беларускую мову і звычаі ў сваіх асяроддзях. Ва ўсім згаданым прадстаўнікі паваеннай эміграцыі мелі як дасягненні, гэтак і праблемы. Да дасягненняў можна залічыць сотні выдадзеных "за жалезнай заслонай" беларускіх кніг і перыёдыкаў, тысячы канцэртаў, выставаў, фестываляў беларускай культуры, доўгагадовую дзейнасць беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода", палітычную рэпрэзентацыю беларусаў, у выніку якой штогод на 25 сакавіка ў розных гарадах свету каля афіцыйных будынкаў можна было ўбачыць бел-чырвона-белы сцяг, а суродзічы прымалі віншаванні з Днём незалежнасці ад іншых нацыянальных арганізацый, а таксама палітычных дзеячаў і ўрадоўцаў розных узроўняў (ад мэраў да прэзідэнтаў). Да пачатку 1990-х гг. беларускія суполкі на Захадзе мелі вялікі досвед дзейнасці, але і пэўныя праблемы, якія былі звязаныя з фізічным адыходам прадстаўнікоў паваеннай эміграцыі і неабходнай "зменай пакаленняў" у арганізацыях. Актыўныя ў грамадска-культурным жыцці кадры імкліва старэлі, народжаная на эміграцыі моладзь у арганізацыі прыходзіла мала. Гэта адлюстравалася і ў прадстаўніцтве "далёкага замежжа" на Першым З'ездзе беларусаў свету. Не мелі ўжо магчымасцей на яго прыехаць (хоць яшчэ жылі) ні Наталля Арсеннева, ні Антон Адамовіч, ні Вітаўт Тумаш, ні Янка Міхалюк, ні некаторыя іншыя знакавыя для беларускай паваеннай эміграцыі асобы. Праўда, сярод дэлегатаў з'езда з заходніх краінаў было багата знакамітых і актыўных беларускіх дзеячаў: Зора і Вітаўт Кіпелі, Янка Запруднік, Вера і Вітаўт Рамукі (ЗША), Янка Жучка (Бельгія), Алег і Уладзімір Шнэкі (Аўстралія), Міхась Наўмовіч (Францыя) і іншыя. Узрост большасці быў ужо добра за 60. Дастаткова дасведчаныя і актыўныя "заходнія" беларусы пасля з'яўлення на мапе незалежнай Рэспублікі Беларусь актыўна імкнуліся, дапамагчы беларускай дзяржаве пад бел-чырвона-белым сцягам у нацыянальным будаўніцтве. Гэтыя намеры актыўна агучваліся на Першым З'ездзе беларусаў свету. У "бліжнім замежжы" сітуацыя на пачатку 1990-х была зусім іншая. Фактычна, беларускія суполкі на пост-савецкай прасторы актыўна ствараліся менавіта ў выніку распаду СССР. З'яўленне дзяржаўных межаў унутры некалі адное краіны актуалізавала праблемы карэннага і некарэннага насельніцтва, паставіла на парадак дня неабходнасць аб'яднoўвацца прадстаўнікам "нацыянальных меншасцяў" для вырашэння ўласных праблемаў. Суродзічы ў "блізкім замежжы", у адрозненне ад прадстаўнікоў паваеннай эміграцыі на Захадзе, гуртаваліся часцей не для захавання, а для адраджэння нацыянальнай самасвядомасці, культуры, мовы. Гэта было своеасаблівае "вяртанне да каранёў", якому распад савецкай дзяржавы даў добры імпульс. Цягам пяцігодкі напярэдадні Першага З'езда беларусаў свету асобныя беларускія арганізацыі паўсталі фактычна ў кожнай былой рэспубліцы СССР. Іх удзельнікаў аб'ядноўвала цікавасць да беларускай гісторыі і культуры, а таксама да беларускай дзяржавы, рэсурсы якой маглі дапамагчы абараніць інтарэсы суродзічаў у новых неспрыяльных сацыяльна-эканамічных умовах. Беларусы з "блізкага замежжа" таксама агучвалі на з'ездзе імкненне дапамагчы незалежнай беларускай дзяржаве, але шмат каму з іх саміх патрэбная была дапамога. Суродзічы з зонаў нацыянальных канфліктаў марылі вярнуцца ў Беларусь, былыя вязні ГУЛАГу, прыкладам, з Рэспублікі Комі, казалі пра незавершаную рэабілітацыю, беларусы з краінаў Балтыі – пра нацыянальны ўціск.

Такім чынам, беларускае замежжа ў часе Першага З'езда беларусаў свету ўяўляла сабою дыяспары як бы двух пакаленняў: "сталыя" – заходнія, антыкамуністычныя, дасведчаныя і ў пэўным сэнсе самадастатковыя ды "новыя" – постсавецкія, вытворныя ад развалу Савецкага Саюзу, больш маладыя, арыентаваныя на сувязі з метраполіяй.

**Працяг на старонцы 2.**

**гісторыя**

Працяг са старонкі 1.

# ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ

З'езд засведчыў як наяўную розніцу ў стане і этапах развіцця беларускіх дыяспараў "далёкага" і "блізкага" замежжа, гэтак і пэўныя агульныя праблемы. Замежныя беларусы з розных бакоў казалі пра стан беларускай мовы ў самой Беларусі, пра неабходнасць дэмакратызацыі грамадства і забеспячэння сапраўднай незалежнасці краіны, а таксама пра "візавую праблему", агульную для ўсіх замежных суродзічаў. Агульнай была і эйфарыя ад сустрэчы ды надзеі на перспектывы беларускага Адраджэння. Цягам наступных 25 гадоў у беларускім замежжы адбыліся істотныя змены, і пераважная большасць іх была так ці інакш звязаная з падзеямі ў метраполіі. Так, у беларускіх асяродках на Захадзе адбылася своеасаблівая "змена пакаленняў", але не за кошт "дзяцей эмігрантаў", а за кошт новай хвалі эміграцыі з незалежнай ужо Рэспублікі Беларусь, палітычная і эканамічная сітуацыя ў якой няспынна спрыяе выезду насельніцтва. Такім чынам у "старыя", створаныя паваеннымі эмігрантамі арганізацыі прыйшлі новыя людзі, народжаныя пераважна ў СССР, што стала спрыяць ментальнаму збліжэнню дыяспараў у "далёкім" і "блізкім" замежжы. Да таго ж, новыя эмігранты сталі засноўваць і новыя арганізацыйныя структуры, што зрабіла "заходняе" замежжа больш разнастайным. Прыкладам, з'явіліся беларускія суполкі ў Чэхіі, Швейцарыі і інш., новыя творчыя ініцыятывы, як "Яваровы людзі" ў Канадзе. Да таго ж "далёкае" замежжа праз чвэрць стагоддзя стала агулам больш маладым у параўнанні з пачаткам 1990-х.

Тымчасам дыяспары на постсавецкай прасторы паступова набіраліся досведу і ў грамадска-культурнай працы, і ва ўзаемадзеянні з метраполіяй. Апошняе справакавала пэўны падзел суполак на тыя, што актыўна падтрымоўваюцца афіцыйным Мінскам і тыя, што не падтрымоўваюцца праз іх "апазіцыйнасць" да ўладаў і палітыкі Рэспублікі Беларусь. Трэба адзначыць, што гэты падзел суполак на "сваіх" і "не-сваіх" закрануў пераважна дыяспары "блізкага замежжа", як больш залежныя ад метраполіі. Беларускія суполкі на Захадзе змаглі

**гутарка**

# ГАННА СУРМАЧ

У 1993 годзе старшыня Рабочай групы па падрыхтоўцы З'езда і сябра Рады ЗБС "Бацькаўшчына"



Васіль Быкаў, Станіслаў Шушкевіч і Ганна Сурмач на Першым з'ездзе беларусаў свету.

**– На Вашыя плечы легла асноўная праца па падрыхтоўцы Першага з'езда. Раскажыце, калі ласка, пра галоўныя праблемы, якія дзеля гэтага давялося пераадолець.**

– Так, я мела вялікі гонар узначаліць Працоўную групу па падрыхтоўцы правядзення Першага з'езда беларусаў свету. Тады ўсе ў беларускім грамадстве адчувалі вялікі патрыятычны ўздым, сябры ЗБС "Бацькаўшчына" гатовыя былі працаваць дзень і ноч. Не стала савецкай імперыі, на ейных абломках трэба было будаваць сваю незалежную краіну. Мы даведаліся шмат праўды з гісторыі Беларусі – пра пастаяннае змаганне нашага народа за свабоду, пра вынішчэнне і рассейванне па свеце беларускай нацыі. Тая група беларускай інтэлігенцыі, якая заклала зусім новую па сваёй ідэі беларускую арганізацыю – Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" – мела на мэце аб'яднанне беларусаў, якія жывуць на Радзіме і па ўсім свеце. Дагэтуль ніхто такой мэты не ставіў. Гэта быў выклік часу, актуальная праблема: аб'яднаць сілы дзеля адраджэння незалежнасці нашай краіны. Трэба было нарэшце пераадолець гэты штучна створаны савецкімі ўладамі раскол, калі замежныя беларусы лічыліся ворагамі і з імі нельга было падтрымліваць кантакты, нават калі гэта была блізкая радня. Нам трэба было дапамагчы замежным суродзічам пазбыцца страху быць арыштаванымі пры наведванні Бацькаўшчыны.

Дзеля таго, каб беларусы маглі сустрэцца разам, непасрэдна, на бацькоўскай зямлі, паціснуць руку адзін аднаму, паглядзець у вочы, усміхнуцца і адчуць сваю нацыянальную еднасць, – і было задумана правесці гэты ўсебеларускі сусветны форум – Першы з'езд беларусаў свету. І ён стаўся менавіта такім. Але арганізатарам давялося шмат папрацаваць: трэба было ў розных краінах адшукаць суродзічаў, іх адрасы, даслаць запрашэнні, пераканаць, што яны бяспечна могуць наведаць Беларусь. Пры гэтым калі мы давалі такія абяцанні, то самі адчувалі занепакоенасць: а раптам здарацца нейкія правакацыі? Падставы так думаць былі, бо да мяне асабіста званілі ветэраны вайны, выгаворвалі за тое, што мы запрашаем "здраднікаў" і нават пагражалі.

Мы супрацоўнічалі з дзяржаўнымі структурамі, якія падтрымалі ідэю правядзення З'езда. Але поўнага паразумення ў гэтай справе быць не магло, бо ўлада ў Беларусі не была яшчэ цалкам беларускаю. Уладныя структуры мелі свае мэты адносна З'езда і самі імкнуліся кіраваць форумам, хаця гэта была цалкам грамадская ініцыятыва. Фінансаваўся З'езд сродкамі ЗБС "Бацькаўшчына", хаця і з удзелам дзяржавы, якая аплачвала пераважна культурніцкія мерапрыемствы. Мы мелі засцярогу, што ўлады паспрабуюць арганізаваць на З'ездзе перадачу мандатаў БНР ураду Кебіча (як падобнае адбылося ва Украіне), бо не мелі даверу да тагачаснай улады, не верылі што яна здолее адбудаваць незалежную беларускую дзяржаву, што і пацвердзілася ў далейшым. З'езд праходзіў у даволі неспакойнай для арганізатараў сітуацыі, хаця гэта не было заўважна гасцям. Прынамсі, да заключнай яго часткі, калі ўлады беспаспяхова паспрабавалі раскалоць З'езд. У цэлым – прадугле-




Ганна Сурмач і Вітаўт Кіпель на прэзентацыі кнігі "Беларусь без межаў" у Нью-Ерку ў 2013 годзе.

# БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

супрацьстаяць яму, апынуўшыся, праўда, у выніку ў шэрагу пераважна “не-сваіх” для метраполіі.

Беларускія ініцыятывы на постсавецкай прасторы таксама паступова робяцца больш разнастайнымі, засноўваюцца новыя цэнтры, школкі, творчыя калектывы, наладжваюцца сувязі паміж суполкамі. Гэтаму, як і ў “далёкім замежжы” шмат спрыяе развіццё інфармацыйнага грамадства і новыя тэхналогіі. Сёння заўважнай з’явай стала стварэнне беларускіх суполак ды рэалізацыя тых ці іншых ініцыятываў з дапамогай сацыяльных сетак і інтэрнэту наогул. Гэта ж дапамагае і больш шчыльным і аператыўным сувязям з суродзічамі ў метраполіі. Разам з тым, сёння шмат якія суполкі ўжо “блізкага замежжа” падыходзяць да праблемы змены пакаленняў, ад вырашэння якой будзе залежыць іх далейшы лёс.

Такім чынам, за чвэрць стагоддзя, што мінулі ад Першага З’езда беларусаў свету, у беларускім замежжы адбыліся вельмі значныя змены, вартыя адмысловага навуковага вывучэння. Варта адзначыць, што даследаванням замежжа (асабліва “далёкага”) у значнай ступені спрыяе дзейнасць Беларускага інстытута навукі і мастацтва, які цягам апошніх дзесяцігоддзяў пераарыентаваў сваю дзейнасць з выключна эміграцыйнай на супрацу з арганізацыямі метраполіі. Дзясяткі кніг выдадзеныя БІНіМам супольна з рознымі выдавецтвамі Беларусі, а найбольш з Згуртаваннем беларусаў свету “Бацькаўшчына”, перыёдык “Запісы БІНіМ” сёння таксама ўжо нью-ёркска-мінскі праект. Асабліва важна, што і эміграцыйныя архівы, дзякуючы інстытуту паступова перадаюцца ў Беларусь, робяцца бліжэйшымі для айчынных даследчыкаў. Гэткая супраца канкрэтнай установы замежжа з метраполіяй таксама ёсць важнай рысай тых зменаў, што адбыліся за чвэрць стагоддзя.

Але парадаксальным чынам на З’ездах беларусаў свету па-ранейшаму абмяркоўваюцца пытанні і лёсу беларускай мовы ды культуры, і неабходнасці дэмакратызацыі грамадства, і забеспячэнне рэальнай незалежнасці Беларусі, а таксама адмены візаў для замежных суродзічаў. І па-ранейшаму актуальнай застаецца сітуацыя “падзеленай нацыі”.

**Наталля Гардзіенка**

джаная намі праграма была выкананая. Форум паспяхова адбыўся і стаўся знакавай падзеяй у сучаснай беларускай гісторыі. І самае галоўнае тое, што распачаты ім працэс яднання беларусаў свету стаў развівацца, набіраць моц і працягваецца да сёння.

**– З’езд прайшоў у вельмі спрыяльных для Згуртавання варунках, з ім было звязана і ім было спароджана шмат планаў і надзей. Што ўдалося ажыццявіць, а што – не?**

– Удалося галоўнае – ідэя аб’яднання беларускай нацыі ў межах сусвету пачала ўвасабляцца, стала неад’емнай часткай сучаснай гісторыі краіны. Мая кніга “Беларусь бязь межаў” ілюструе сутнасць і вынікі гэтага працэсу. Развіццё беларускай нацыі не абмяжоўваецца дзяржаўнымі межамі Рэспублікі Беларусь, яно адбываецца ўсюды, дзе жывуць нашыя суродзічы. Яны цяпер не ізаляваныя, не аддзеленыя ад Бацькаўшчыны. Нацыя развіваецца не сама ў сабе, але таксама пад уплывам агульнацывілізацыйных працэсаў, якія адбываюцца ў свеце. Праз нашых суродзічаў мы можам вучыцца, здабываць досвед іншых нацый і пераймаць лепшае.

Што не ажыццявілася, дык гэта тое, пра што мы марылі і дзеля чаго трэба было аб’ядноўвацца. Мы пакуль што не маем беларускай па духу ўлады, маем незалежнасць дэ-юрэ, а дэ-факта – па-ранейшаму залежым ад суседняй Расіі. Мы не маем дэмакратыі і свабоды ў Беларусі, дзе не забяспечваюцца элементарныя правы чалавека – права на свабоду выбараў, свабоду голасу, на эканамічную свабоду. Па ўсіх гэтых прычынах Беларусь для сваіх сыноў і дачок не ёсць той Бацькаўшчынай, якая клапоціцца пра сваіх дзяцей. Не падтрымліваюць сённяшняя ўлады Беларусі і беларускую дыяспару такім чынам, як гэта робяць цывілізаваныя краіны.

**– Зараз Вы жывяце ў ЗША. Якой сёння бачыцца дзейнасць Згуртавання здалёк? Што, можна было б зрабіць больш эфектыўным?**

– Так, я жыву ў Амерыцы – вымушаная была стаць эмігранткаю менавіта з названых вышэй прычын. Так што маю досыць вялікі досвед жыцця як у метраполіі, гэтак і ў дыяспары, ведаю сітуацыю знутры і з абодвух бакоў. Гэта дапамагае мне сёння актыўна ўдзельнічаць у беларускім жыцці на эміграцыі. Цягам амаль дваццаці гадоў на чужыне я ніводнага дня не жыла без вестак з Беларусі, ніколі не перапыняла сваю грамадскую беларускую працу і буду ёй займацца, пакуль хопіць сілаў і часу жыцця. Таксама я не перапыняла сувязяў і працоўных кантактаў з дарагім мне Згуртаваннем беларусаў свету “Бацькаўшчына”. Глыбока перажываю за ўсіх, хто там працуе, спачуваю вашым цяжкасцям і праблемам, якія мы тут усе добра разумеем.

Самае галоўнае: ад часу Першага з’езда і ў найбліжэйшай перспектыве праца з дыяспарай – гэта абавязак дэмакратычнай грамадскасці Беларусі. Бо дзяржаўныя ўлады разглядаюць сувязі з дыяспарай аднабакова, жадаюць, каб яна іх падтрымлівала. Але дыяспара жыве пераважна ў цывілізаваным дэмакратычным свеце і не можа прыняць антыдэмакратычнай, антынацыянальнай палітыкі ўладаў Беларусі. Найперш працаваць з дыяспарай і надалей павінна ЗБС “Бацькаўшчына”, у гэтым яе місія. Галоўная стратэгія – захоўваць ідэю і арганізацыю. А тактыка – рабіць, што магчыма, у гэтых цяжкіх умовах. Выглядае, што можна шмат рабіць праз інтэрнэт, працягваць выдаваць бюлетэнь “Беларусы ў свеце” – ён добра чытаецца ў замежжы. Цяжка сказаць нешта больш канкрэтнае. Не будзем губляць надзеі на лепшыя часы.

Ад сябе вельмі хачу падзякаваць усім сябрам ЗБС “Бацькаўшчына”, асабліва кіраўніцтву і выканаўчаму персаналу, за карпатлівую працу, за адданасць нашай ідэі, нашай надзвычай важнай справе. З удзячнасцю згадваю ўсіх сваіх сяброў і паплечнікаў, з кім мы ладзілі той першы сусветны форум беларусаў. Іх імёны згаданыя ў кнізе “Першы з’езд беларусаў свету”, якую мне ўдалося падрыхтаваць і выдаць яшчэ да ад’езду ў эміграцыю. У кнізе апісаная ўся гісторыя гэтай надзвычайнай падзеі.




Станіслаў Шушкевіч на Сёмым з’ездзе беларусаў свету. 2017год.

# СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ

У 1993 годзе Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**– Як Вы ўспрынялі ідэю правядзення Першага з’езда беларусаў свету з пазіцыі Старшыні Вярхоўнага Савета і асабіста? Як паставіўся да гэтай падзеі Вярхоўны Савет? Ці прадбачылі неадназначную рэакцыю беларускага грамадства – вынік дзесяцігоддзяў культывавання негатыўнага іміджу эміграцыі?**

– Калі Беларусь зрабілася самастойнай, у нас быў вялікі энтузіязм. У большасці членаў Вярхоўнага Савета была вялікая цяга да беларускасці, да беларускага замежжа, і таму гэта ўсё віталася. Прычым не толькі ў Вярхоўным Савеце, але і ў Савеце Міністраў. Я быў перакананы, што нават старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч таксама вельмі хацеў гэтай беларускасці. Я не сумняваўся, што ўсе беларусы хацелі сабрацца і правесці З’езд беларусаў свету. Ні з кім змагацца не прыходзілася і, як я гэта памятаю, усе былі адзінадушныя ў тым, што З’езд патрэбны і яго трэба падтрымаць.

**– На З’ездзе Вы казалі пра патрэбу ў фармуляванні ідэі, якая здолела б аб’яднаць усе патрыятычныя рухі і была пры гэтым менш абмежаванай і больш канструктыўнай, чым паноўная на той час “антыкамуністычная”. Ці сфармуляваная гэтая ідэя сёння? Вакол чаго сёння могуць згуртавацца неабыякавыя людзі?**

– Гэта вельмі складанае пытанне. Тады я быў пад уражаннем пэўных заходніх публікацый, у прыватнасці кнігі Людвіга Эрхарда “Дабрабыт для ўсіх”. Мне хацелася, каб у нас усвядомілі, што “побытавая” антыбеларускасць – не віна людзей, а іх бяда. У нас былі цудоўныя дэпутаты, якія наогул не ўсведамлялі, што яны ў Беларусі – для іх гэта быў Савецкі Саюз і Расія. Гэта былі заслужаныя людзі, але да іх даволі зняважліва ставіўся Беларускі народны фронт. Іх папракалі, уважалі за цемрашалаў... Мне хацелася, каб не гэта было галоўным лозунгам, хацелася знайсці нешта падобнае да таго, што знайшоў у свой час Эрхард, які, займаючыся праблемамі эканомікі, прыйшоў да высновы, што эканамічнае развіццё паляпшае і іншыя складнікі жыцця грамадства. Маё любімае слова тады было “згода”, хацелася знайсці паразуменне паміж прагрэсіўнай часткай партыйнай наменклатуры і прадстаўнікамі Беларускага народнага фронту.

Працяг на старонцы 4.

**гісторыя**

# 25-ГОДДЗЕ ПЕРШАГА З'ЕЗДА

Эканамічны крызіс прымусіў СССР пачаць перабудову, якая пад уплывам хвалі нацыянальнага адраджэння ў саюзных рэспубліках прывяла да стварэння незалежных дзяржаў. У 1990 г. была прынятая Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі.



Нашчадкі беларускіх адраджэнцаў, якія працавалі ў Інбелкульце, на Першым з'ездзе беларусаў свету: Радзім Гарэцкі, Алеся Бабарэка, Майя Кляшторная, дочкі Алеся Смоліча, Вітаўт Кіпель.

У той час паступова пачалі пашырацца веды пра беларускую эміграцыю, асабліва вельмі актыўную нацыянальна-свядомую, пасляваенную. Узнікла памкненне аб'яднаць намаганні шчырых беларусаў, скіраваныя на стварэнне і развіццё незалежнай дэмакратычнай Беларусі. 10 верасня 1990 г. з ініцыятывы Яўгена Лецкі ў Доме літаратара прайшла ўстаноўчая канферэнцыя Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", прэзідэнтам якой абралі Васіля Быкава. Пачалі ўсталёўвацца кантакты паміж беларусамі метраполіі і замежжа. Былі створаны добрыя ўмовы для кансалідацыі беларускай нацыі, таму "Бацькаўшчына" прапанавала склікаць сусветны форум беларусаў, і гэтую прапанову падтрымалі як Сход беларусаў блізкага замежжа (снежань 1992 г.), гэтак і ўдзельнікі Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі (Кліўленд, верасень 1992 г.).

8–10 ліпеня 1993 г. адбыўся Першы з'езд беларусаў свету, які быў арганізаваны "Бацькаўшчынай" разам з урадавымі арганізацыямі Беларусі. З'езд прайшоў у Дзяржаўным тэатры оперы і балета. Прысутнічала больш за 1200 удзельнікаў, сярод іх 486 прадстаўнікоў замежжа. Пра падзею шмат пісалі ў газетах і часопісах, а па выніках "Бацькаўшчынай" была выдадзена кніга з матэрыяламі і дакументамі мерапрыемства.

На З'ездзе прагучала шмат дакладаў і выступленняў, а звязаныя з ім мерапрыемствы прайшлі не толькі ў Мінску, але і ў іншых мясцінах Беларусі. Былі прыняты важныя выніковыя дакументы. На Першым з'ездзе прадстаўнікі беларускай дыяспары з розных краін свету ўпершыню сабраліся разам, каб асэнсаваць сябе ў кантэксце сваёй прысутнасці ў свеце, кансалідаваць нацыю, акрэсліць шляхі да незалежнасці краіны, яе дзяржаўнага будаўніцтва і нацыянальнага адраджэння. Тады нам здавалася, што гэта толькі пачатак магутнага працэсу новага адраджэння, але то быў апафеоз мінулага і сучаснага перыяду гісторыі краіны.

Нягледзячы на вялікую загружанасць сваёй асноўнай працай у якасці віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі, я ўсё ж не змог адмовіцца ад прапановы Васіля Быкава балатавацца ў прэзідэнты ЗБС "Бацькаўшчына". Знаёмства з замежнымі дэлегатамі Першага з'езда, асабліва з Паўночнай Амерыкі, зрабіла на мяне вялікае ўражанне – такімі яны падаліся мне блізкімі сваёй беларускасцю. Я бачыў, як моцна былі ўсхваляваныя

---

**гутарка**

Працяг са старонкі 3.

Але адбылося не зусім тое, чаго хацелася б. У нас пачалі выкрышталізоўвацца "шчырыя" і значна больш "якасныя" беларусы, чым тыя сем-восем мільёнаў, якія вывучалі ў школе "наркамаўку". Хаця гэта мяне і бянтэжыла, выступіць супраць я не мог, захоўваў нейтральную пазіцыю і чакаў, што мы выпрацуем нацыянальную ідэю. Адбыліся зрухі ў адукацыі, людзі пайшлі ў беларускамоўныя класы, у беларускамоўныя дзіцячыя садкі. Але, на жаль, нечакана для мяне, наменклатура згуртавалася, каб гэтаму супрацьстаяць.

# ЯНКА ЗАПРУДНІК

У 1993 годзе рэдактар газеты "Беларус" (ЗША, Нью-Ёрк)

**– Распад СССР нават для многіх савецкіх грамадзян быў неспадзяванкай. Ці думалі Вы, што калі-небудзь давядзецца браць удзел у такім мерапрыемстве? Якое самае яркае ўражанне засталася ў памяці з Першага з'езда беларусаў свету?**

– Распад СССР быў сапраўды "неспадзяванкай", і не толькі для многіх савецкіх грамадзян (якія сядзелі за "жалезнай заслонай", як у мяшку), але і для заходніх экспертаў-гісторыкаў, экспертаў-палітолагаў, а разам з імі і для дзяржаўных лідараў. Пісалі і гаварылі не гэтулькі пра няўхільнасць развалу СССР, колькі пра захаванне заходне-ўсходняга збройнага балансу. А ў сферы журналістыкі, у якой я працаваў, гадамі цягнулася адлюстроўванне агульнага страху перад ядзерным канфліктам. У абліччы такой пагрозы панавала перакананне, што трэба захоўваць статус-кво, шукаць нейкага "мірнага суіснавання". А ў мяне асабіста ў гадах 60-х да пачатку 80-х нарастала і замацоўвалася перакананне, што Беларусі (са сваякамі ў ёй) я так і не пабачу.

І калі пад канец 80-х з-за сцен Крамля выпаўз і пашырыўся па ўсёй дзяржаве палітычны склероз, нядольнасць перадаваць уладу ў рукі наступнікаў, з'явілася магчымасць наведаць родны край. Гэта быў неверагодны экстаз, уздым энтузіязму, адчуванне свежага палітычнага паветра. Першы з'езд беларусаў свету адбываўся якраз у такой рамантычнай атмасферы з гарызонтам свабоды і новых магчымасцяў.

**– На Першым з'ездзе вельмі горка прагучалі Вашыя словы пра тое, "як балюча пасля доўгай ростані бачыць унукаў Бацькаўшчыны, якія не здольныя разумець мову сваіх дзядоў". Ці адбыліся, паводле Вашых назіранняў, нейкія змены ў становішчы беларускай мовы ці ў іншых сферах беларускага жыцця?**

– "Нейкія змены" да лепшага ў сферы роднай мовы, агульна беручы, адбыліся й адбываюцца (прыкладам, у публікацыі разнастайных кніг), але боль у сэрцы застаўся, бо ў дзялянцы школьніцтва зруху не адбылося. Паўтараю словы, сказаныя на Першым з'ездзе: "Дзеці і далей не здольныя разумець мову сваіх дзядоў". Я, праўда, не меў магчымасці пабыць у тыповай пачатковай школе, але пра заціск беларускай мовы ў школьніцтве даволі начытаны, дый сам чуў не так даўно ад беларускамоўнага пісьменніка, які наведваў школы, выступаў там, і казаў мне з горыччу: "Для каго ж тады пісаць, калі школьнікі мяне не разумеюць?!" Дыскрымінацыя і знявага роднай мовы навідавоку і ў афіцыйнай сферы, пачынаючы ад кіраўніка дзяржавы праз усе ступені да нізавых бюракратаў.

**– А якія змены за чвэрць стагоддзя, што мінулі ад часу Першага з'езда беларусаў свету, адбыліся ў жыцці амерыканскіх беларусаў?**

– Змены адбыліся, і вялікія. Адышло ў "лепшы свет" пакаленне, якое прыбыло ў Злучаныя Штаты ў канцы 1940-х – пачатку 1950-х, якое заснавала арганізацыі, збудавала матэрыяльныя асновы арганізацыйнага існавання ды перадало малодшым наступнікам нацыянальную свядомасць. Вечная ім памяць. Цяпер беларуская прысутнасць у Амерыцы забяспечваецца што раз у большай ступені новапрыбылымі суродзічамі. Праўда, яны адрозніваюцца ад іхных гістарычных папярэднікаў тым, што бальшыня з іх – людзі з чыста эканамічнымі ды персанальна бытавымі інтарэсамі. Беларускае нацыянальна-палітычнае пытанне іх цікавіць няшмат, а нацыянальна-культурнае яшчэ менш. Сваё



Янка Запруднік на Першым з'ездзе беларусаў свету пакідае аўтограф для Маі Кляшторнай і Уладзіміра Пузыні.

# БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

беларусы замежжа, калі пасля шматгадовага жыцця па-за роднай Беларуссю зноў былі на зямлі Бацькаўшчыны, як многія са слязьмі на вачах падалі на калені і цалавалі зямлю, як некаторыя спалохана азіраліся і баяліся, што іх зараз арыштуюць і г. д. Пазней, асабліва пасля майго наведвання разам са старшынёй Рады Згуртавання Ганнай Сурмач у 1994 г. ЗША і Канады, а затым і майго ўдзелу ў 21-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, я з многімі з іх зблізіўся і нават пасябраваў.

Пасля рэферэндуму 1995 года і паправак да Канстытуцыі ў 1996 годзе сітуацыя ў краіне рэзка змянілася – адбыўся паварот да савецкага мінулага, адмоўнага стаўлення да нацыянальнага адраджэння, незалежнасці і г. д. Улады Беларусі пачалі падтрымліваць толькі лаяльныя суполкі беларускага замежжа, і ў выніку адбыўся падзел на “чэсных” і “нячэсных”, “нашых” і “не нашых”. Асабліва гэта закранула беларускія арганізацыі краін СНД.

Як вядома, за мяжой жыве 3,5–4 млн беларусаў (гэта значыць, што амаль кожны трэці, а можа і другі беларус жыве па-за сваёй краінай). Яны жывуць у 73 краінах свету, арганізаваныя суполкі ёсць у 26 з іх. Згуртаванне “Бацькаўшчына” ўвесь час імкнулася да сумеснага супрацоўніцтва ўсіх беларусаў свету для развіцця нацыянальнай культуры, адукацыі, навукі, эканомікі і пабудовы моцнай еўрапейскай незалежнай Беларусі, бо сярод беларускай дыяспары шмат шчырых прыхільнікаў такога супрацоўніцтва, шмат выдатных дзеячаў. На жаль, кіраўніцтва дзяржавы Беларусі да гэтага часу вельмі слаба ўдзельнічае ў азначаным напрамку. Хаця ў 2014 годзе і быў прыняты закон “Аб беларусах замежжа”, ён застаецца хутчэй дэкларатыўным.

ЗБС “Бацькаўшчына” працягвае вельмі актыўна працаваць па самых разнастайных напрамках. Асабліва трэба адзначыць рэгулярнае выданне інфармацыйнага бюлетэня “Беларусы ў свеце”, стварэнне ў 2004 годзе серыі “Бібліятэка “Беларусы ў свеце”, у якой ужо выдадзена больш за тры дзясяткі кніг, а ў 2008 годзе падсерыі “Людзі Беларусі”; шырокую культурніцкую кампанію “Будзьма беларусамі”; фестываль беларускамоўнай рэкламы “Аднак!”; розных праектаў па выданні кніг і календароў і г. д.; стварэнне “Цэнтра камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа” (разам з БДАМЛіМ); удзел у шматгранным жыцці беларусаў свету і інш.

Я лічу, што “Бацькаўшчына” аказала і працягвае аказваць уплыў на нацыянальнае будаўніцтва Беларусі і развіццё беларушчыны, і таму я аддаваў многа сіл на захаванне і развіццё Згуртавання і заўсёды буду падтрымліваць усё, што вядзе да яго ўмацавання і лепшай працы.

**Радзім Гарэцкі**
**Друкуецца ў скароце.**
**Цалкам чытайце на zbsb.org**



Радзім Гарэцкі на Сёмым з’ездзе беларусаў свету. За ім – кіраўнік Мусульманскага рэлігійнага аб’яднання ў Беларусі муфцій Абу-Бекір Шабановіч.



Янка Запруднік у Мінску на прэзентацыі кнігі Наталлі Гардзіенка і Лявона Юрэвіча “Кантакты” (серыя “Бібліятэка “Бацькаўшчыны”). 2016 год.

арганізацыйнае існаванне, у тым ліку царкоўнае – тое, што было святым для папярэднікаў у 50–60-я гады – для іх мала патрэбнае. Ім хапае таго, што яшчэ існуе і што малая частка з іх падтрымлівае.

**– У 1993 годзе Вы адзначалі істотную розніцу паміж праблемамі дыяспар “блізкага” і “далёкага” замежжа. Ці захоўваецца гэты разрыў і ў сучасным свеце?**

– Розніца застаецца. Беларусы, што жывуць у навакольных з Бацькаўшчынай краінах, маюць большыя магчымасці кантактаваць з беларушчынай на Бацькаўшчыне. Хоць, трэба тут сказаць наступнае. Паняцце “блізкасці-далёкасці” даволі ўмоўнае – скажам, для беларусаў у расійскім Іркуцку і канадскім Таронта. Іркуцкія беларусы, так як і канадскія, сваімі этнічна-культурніцкімі ініцыятывамі даюць выдатны прыклад для дыяспар ува ўсіх краінах, блізкіх і далёкіх. Рэч у тым, што блізкасць і далёкасць вымяраецца не геаграфічнай дыстанцыяй, а духовай. У той жа сучаснай Беларусі, на вялікі жаль, поўна такіх суродзічаў, якія шмат далей ад Бацькаўшчыны, чымся Іркуцк і Таронта.

# АЛЕГ ТРУСАЎ

У 1993 годзе старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады.

**– Падчас пленарнага пасяджэння Вы звярталіся да ўдзельнікаў Першага з’езда ад імя Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, якую на той час узначальвалі – “партыі, якая ўзяла на сябе нялёгкую місію адрадзіць і працягваць традыцыі першай беларускай партыі”. Ці зведалі Вашыя палітычныя погляды і ідэалы трансфармацыю за чвэрць стагоддзя, якая мінула з таго часу?**

– Збольшага не зведалі, хаця пасля майго сыходу Грамада не раз развальвалася – на дзве, а пасля і на тры партыі. Тым не менш, Грамада сёння дзейнічае. Нядаўна выбралі маладога актыўнага лідара, я – па-ранейшаму ў Цэнтральным Камітэце. Нам удалося пераадолець амаль усе расколы, і сёння толькі нашая Грамада і з’яўляецца сапраўднай партыяй. Ёсць частка, якую ўзначальвае Мікалай Статкевіч, больш фармальная – Грамада пад кіраўніцтвам Станіслава Шушкевіча. А нашая партыя – рэальная, удзельнічае ў выбарах...

**– У тым самым звароце быў выказаны спадзеў, што З’езд дапаможа зразумець, дзе крыецца галоўная небяспека беларускай незалежнасці і развіццю. Ці апраўдала гэтае маштабнае мерапрыемства Вашыя спадзевы?**

– На жаль, доўгі час зразумець не выходзіла. Зразумелі толькі нядаўна, пасля акупацыі Крыма і вайны на Данбасе. А да таго частка грамадства проста не разумела, дзе тая небяспека і як з ёй змагацца. Гэтая небяспека існавала ў 1993 годзе, існуе і зараз. Прычым, на маю думку, пасля падзей ва Украіне яна істотна павялічылася, стала значна больш пагрозлівай, чым дваццаць пяць гадоў таму.



Алег Трусаў (з мікрафонам) на Сёмым з’ездзе беларусаў свету. 2017 год.

гутарка

# ЗІНАІДА КЛЫГА

У 1993 годзе намесніца старшыні Беларуска-эстонскага згуртавання ў Кохтла-Ярве.

**– На Першым з'ездзе Вы казалі пра цяжкае становішча беларусаў у Эстоніі, праблемы з атрыманнем эстонскага грамадзянства, а таксама пра ігнараванне нацыянальных праблем з боку эстонскіх уладаў. Як сітуацыя выглядае сёння?**

– Гэтак было, і здавалася, што гэта немагчыма перажыць ды прыняць. Але зараз я не магу сказаць, што наша жыццё ў Эстоніі цяжэйшае за вашае ў Беларусі. З матэрыяльнага боку мы жывем лепей: і заробкі вышэйшыя, і пенсіі значна большыя. Праблемы з грамадзянствам ужо мала каго турбуюць, яны збольшага выкарыстоўваюцца для палітычных спекуляцый. Бо каму эстонскае грамадзянства сапраўды патрэбнае, той, прыклаўшы намаганні, яго атрымлівае. Для моладзі няма вялікай складанасці стаць грамадзянінам Эстоніі ўжо ў гімназіі. Да таго ж "шэрыя" пашпарты на самой справе ніколькі не перашкаджаюць ні жыць, ні працаваць, ні вандраваць па свеце. Нельга толькі галасаваць на выбарах ў найвышэйшы орган улады – Дзяржаўны сход. На мясцовым узроўні грамадзяне і "неграмадзяне" абіраюць валасных і гарадскіх дэпутатаў на аднолькавых умовах.

Як толькі Эстонія атрымала незалежнасць, адразу даволі жорстка было пастаўлена пытанне аб выкарыстанні дзяржаўнай мовы. І да сённяшняга дня для многіх неэстонцаў гэта даволі балючая праблема. Аднак у мяне выклікае павагу тая цвёрдасць, з якой маленькі народ змагаецца за захаванне галоўнага свайго адрозненя ад іншых – сваёй мовы. Зразумела, што руская мова не можа нейкім чынам замяніць эстонскую, заняць яе месца, як у Беларусі, дзе роля беларускай мовы зведзеная да мясцовых гаворак, дыялекту. І тым не менш эстонцы, не забараняючы зносіны на родных мовах, патрабуюць валодання дзяржаўнай эстонскай моваі ва ўсіх сферах жыцця. І гэта правільна.

Што датычыцца праблем нацыянальных меншасцяў, дык трэба сказаць, што на дзяржаўным узроўні вядзецца вялікая інтэграцыйная праца, каб месца знайшлося для ўсіх жыхароў Эстоніі, незалежна ад нацыянальнасцяў. Больш за тое, дзяржава, хай і невялікімі грашыма, але падтрымлівае дзейнасць нацыянальных аб'яднанняў. Мы атрымліваем гэтак званае базавае фінансаванне ад Міністэрства культуры, каб мець магчымасць ладзіць сваю супольную працу. Хачу падкрэсліць, што мы робім справаздачу за гэтыя грошы, але пры гэтым ніхто не кажа нам, што рабіць. Мы гэтыя грошы не адпрацоўваем, мы на іх працуем.



Беларуска-эстонскае згуртаванне святкуе Дзень Волі. Зінаіда Клыга з мікрафонам. 2018 год.

Я казала на Першым з'ездзе, што трэба спрасціць працэдуру вяртання з Эстоніі на Радзіму для ахвотных, бо ўзнікалі складанасці з атрыманнем віз і беларускага грамадзянства. Зараз у гэтай галіне шмат што вырашылася, а тыя пытанні, якія часам узнікаюць, вырашаюцца на адпаведным узроўні.

Але і цяпер, як і раней, нам не хапае сувязяў з Беларуссю. У пачатку 1990-х, калі Беларусь была зацікаўленая ў адраджэнні сваёй гісторыі, культуры, роднай мовы ды спрабавала дапамагчы захаваць сваю нацыянальную адметнасць таксама і нам, беларусам, адарваным ад сваёй зямлі, – ладзіліся курсы, навучанне, да нас прыязджалі, нас запрашалі. Цяпер, падаецца, гэтая праца страціла сваю актуальнасць. Вельмі б хацелася адчуваць узаемную сувязь з Радзімай. Беларус, дзе б ні знаходзіўся, павінен мець права разлічваць на тое, што будзе "сваім" у Беларусі, мець права на нейкія прэферэнцыі, звязаныя з уездам у краіну, з працай, з вучобай. Напрыклад, як у Польшчы, дзе існуе карта паляка. Гэта вельмі дапамагло б нам не губляць сваіх землякоў, многія з якіх яшчэ памятаюць, адкуль яны родам, але не бачаць патрэбы ў выхаванні беларускасці ў сваіх дзецях, унуках. Яны асімілююцца ў рускамоўным ці эстонскамоўным асяроддзі і Беларусь застаецца ў баку ад іх памяці і інтарэсаў.

**– Пытанне пра БЭЗ узору 1993 і БЭЗ узору 2018. Што змянілася? Якія былі чаканні ад Беларусі тады, у 1993, і чаго хацелася б цяпер?**

– Праз восем месяцаў, у сакавіку, нашаму згуртаванню споўніцца 30 гадоў. На сённяшні дзень мы найстарэйшае беларускае нацыянальна-культурнае аб'яднанне ў Эстоніі. Мы даволі актыўныя ў параўнанні з іншымі нацыянальнымі аб'яднаннямі і шмат чаго робім, каб у шматнацыянальнай Эстоніі беларуская культура была бачная і не гублялася. За гэты час адбылося вельмі шмат унутраных змен. І праз тое, што мы пастарэлі, і праз тое, што шмат у чым страцілі арыенціры, кіруючыся якімі некалі будавалі сваю працу. Сёння большасці дастаткова гуртавацца проста па прынцыпе зямляцтва. Калі ў самым пачатку мы стараліся ў сваім коле размаўляць на роднай мове, то цяпер гэта выклікае здзіўленне: "Навошта, у нас жа дзве дзяржаўныя мовы. Будзем казаць, як зручней". А людзям сталага веку, да таго ж, падабаецца, што ў Беларусі жыццё нагадвае савецкі час.

Цяпер нам вельмі складана захоўваць рэшткі культурнага патэнцыялу, напрацаванага ў самым пачатку. І здаецца, што калі нічога не зменіцца ў самой Беларусі, усё менш будзе заставацца тых агульных падыходаў, якія будуць звязваць замежных беларусаў з метраполіяй, падсілкоўваць цікавасць да гісторыі свайго народа і дапамагаць вяртанню да сваіх вытокаў.

# ЛЕАНІД ЛЫЧ

Доктар гістарычных навук, сябра Рады ЗБС "Бацькаўшчына".

**– На Першым з'ездзе падчас пленарнага выступу Вы выказалі цікавую думку пра неабходнасць уключэння ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь беларусаў замежжа (хай сабе нават у ніжэйшым за дэпутацкі статусе), каб такім чынам садзейнічаць пашырэнню і паглыбленню замежных сувязяў. Ці падаецца Вам такі падыход актуальным у сённяшніх умовах?**

– За межамі краіны жыве трэцяя частка ўсіх беларусаў. У гэтай прапорцыі мы саступаем хіба толькі армянам. І беларуская эміграцыя з самых розных прычын будзе толькі павялічвацца – у асноўным праз тое, што дзяржава не праводзіць палітыкі, якая вяла б да этнічнай кансалідацыі народа і не выхоўвае ў моладзі павагі да сваёй гісторыі і Радзімы. Прычым з'язджаць будуць самыя здатныя, здольныя зрабіць сабе нармальнае жыццё і ў чужых краінах. У нашай дзяржавы павінен быць асобны сур'ёзны орган для працы з дыяспарай.





Леанід Лыч выступае на Сёмым з'ездзе беларусаў свету. 2017 год.

# ВАЛЕРЫ ГЕРАСІМАЎ

Намеснік старшыні Рады ЗБС "Бацькаўшчына".

**– Якая была рэакцыя постсавецкага грамадства на памкненне Згуртавання правесці З'езд? Вядома, што за савецкім часам эміграцыя наогул і беларусы замежжа ў прыватнасці не ўхваляліся.**

– Гэта быў вельмі рамантычны і ўзнёслы перыяд у гісторыі Беларусі. Посткамуністычная наменклатура, дакладней, найбольш кансерватыўная, скарумпаваная і адарваная ад народу яе частка, зрабілася "кастай недатыкальных" і была ідэйна дэмаралізаваная. Таму нават нейкіх спроб выцягнуць на свет брашуркі пра калабарантаў і нацдэмаўпаліцаяў ужо фактычна не было. Наадварот, пачынала шырока папулярызавацца культурная спадчына беларусаў замежжа, у СМІ з'яўлялася шмат папулярных матэрыялаў па гісторыі беларускай эміграцыі і дыяспары. Адбыліся першыя візіты на радзіму яе прадстаўнікоў. Таму, сапраўды, у шырокіх колах інтэлігенцыі і простага грамадства быў шчыры інтарэс да будучага З'езда. Асабіста я быў проста атакаваны просьбамі аб магчымасці прысутнічаць на яго адкрыцці з боку род-



Валеры Герасімаў на Сёмым з'ездзе беларусаў свету. 2017 год.

ных, знаёмых і калег-кніжнікаў. Больш за тое, праз суполку ТБМ, створаную ва Урадавай бібліятэцы, я актыўна папулярызаваў матэрыялы падрыхтоўкі З'езда сярод чытачоў – урадавых службоўцаў. У іх асяроддзі таксама збольшага панаваў дэмакратычны настрой, шмат хто асабіста падыходзіў для навязвання кантактаў. На ўзроўні сенсацыі прайшла ў бібліятэцы выстава выданняў беларускага замежжа – больш за 300, – падораных бібліятэцы легендарным якуцка-беларускім бібліяфілам Алесем Баркоўскім, які літаральна падпольна шмат гадоў збіраў сваю калекцыю ў Мінску.

Небяспечна было якраз іншае – каб праз залішнюю эйфарыю не здаць беларускую дзяржаўнасць расійскай пятай калоне і кампрадорам з ліку нацыянальнай эліты. Асабліва ад гэтага перасцерагаў Зянон Пазняк. Праз актыўную каардынацыю ўсіх нацыянальна-дэмакратычных сілаў гэтага ўдалося пазбегнуць. З'езд стаўся чарговай пераможнай прыступкай нацыянальнага адраджэння, і сімвалічныя "кляйноды БНР" не былі перададзены ўраду Кебіча.

**– Якія моманты з працэсу падрыхтоўкі З'езда і з працы рэдакцыйнай камісіі Вам падаліся самымі яркімі і наймацней адбіліся ў памяці?**

– Я быў старшынёй аргкамітэта па падрыхтоўцы Першага сходу беларусаў блізкага замежжа, які прайшоў годам раней. Такі-сякі працоўны досвед ужо меў у гэтай справе. Памятаецца шчырасць, апантанасць, натхнёнасць усіх сябраў Рады і Управы Згуртавання беларусаў свету. Гэта былі найлепшыя сілы нацыі. Літаратары, паэты, навукоўцы, дактары навук і інжынеры, бібліятэкары і настаўнікі. На жаль, многія ўжо пайшлі з жыцця. Шмат хто сёння нядужны, хварэе. На мой погляд, варта было б стварыць нам зараз дабрачынны фонд па падтрымцы ветэранаў Адраджэння. Яны гэтага заслугоўваюць. Лёс падараваў мне шчасце супрацы і стасункаў з Васілём Быкавым, Радзімам Гарэцкім, Яўгенам Лецкам, Ганнай Сурмач, Вітаўтам Кіпелем, Янкам Запруднікам, Станіславам Шушкевічам, Адамам Мальдзісам, Анатолем Сабалеўскім, Арсенем Лісам, Міколам Ермаловічам, Анатолем Грыцкевічам, Лідзіяй Савік, Вячаславам Рагойшам, Лявонам Казырам, Яўгенам Адамовічам, Барысам Стукам, Міколам Люцко, Алесем Станкевічам, Міколам Статкевічам, Пятром Краўчанкам... Паверце, я магу доўжыць і доўжыць гэты спіс. Дзякуючы іх гераічнай грамадскай працы ЗБС "Бацькаўшчына" мае трывалы ідэйны нацыянальны грунт і дасюль з'яўляецца адным з важкіх чыннікаў нацыянальнага адраджэння.

А ў часе падрыхтоўкі З'езда, вядома ж, гарэлі яркія спрэчкі і дыскусіі. "Два беларусы – тры партыі". Але вынік пераўзышоў усе чаканні і дасюль застаецца неперанўзыдзеным прыкладам яднання нацыі, аб'яднання высілкаў грамадскасці і дзяржавы.

**– Вы ад самага пачатку ў "Бацькаўшчыне" і ведаеце, якія прынцыпы і ідэі былі пакладзеныя ў падмурак Згуртавання яе заснавальнікамі. Як Вы сёння, праз чвэрць стагоддзя ад Першага з'езда, ацэньваеце дзейнасць "Бацькаўшчыны"? Ці спраўляецца арганізацыя з ускладзенай на яе місіяй?**

– Улады бясконца змушалі нас карэктаваць статут, гэта быў адзін з спосабаў фізічнага і маральнага знішчэння Згуртавання. Але духоўным падмуркам для ЗБС заўсёды былі ідэалы нацыянальна-дэмакратычныя, я б нават сказаў – БНРаўскія: бел-чырвона-белы сцяг, Пагоня, родная мова, тысячагадовыя традыцыі культуры і дзяржаўнасці. І таму ў нашай арганізацыі фактычна не было "здраднікаў". Часам людзі сыходзілі з арганізацыі з суб'ектыўных прычын, але ніколі не ператваралі гэта ў раздрай на забаву "ўладу трымаючых". Без залішняй сціпласці скажу – сённяшняя "вышыванкавая кампанія" і іншыя культурніцкія акцыі з нацыянальным адценнем, якія ладзяць правячы рэжым, інспіраваныя менавіта поспехам дзейнасці "Бацькаўшчыны", найперш кампаніі "Будзьма беларусамі!". Прыём не новы, у 1930-х такім чынам сталінскія прыслужнікі спрабавалі падмяніць стрыжань палітыкі беларусізацыі, знішчаючы кадры нацыянальна-арыентаванай інтэлігенцыі, але пакідаючы абалонку фальшывай "фальклорна-этнаграфічнай" беларускасці. Вядомая хвароба беларускай інтэлігенцыі – агітаваць адзін аднаго "за мову" і дэмакратыю, але практычнымі дзеяннямі гэтага асабліва не здзяйсняць. Гонар ЗБС, што кіраўнікі Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская змаглі не паддацца розным д' яблавым спакусам і ад з'езда да з'езда беларусаў свету ўпэўнена вядуць рэй. Зрэшты, гэта можна сказаць пра кожнага супрацоўніка невялічкага рабочага апарату арганізацыі. Ведаючы з навуковай літаратуры пра напрамкі дзейнасці сучасных арганізацый па працы з дыяспарамі ў іншых краінах, канстатую, што МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" і яе кіраўнікі – прыклад адной з найбольш эфектыўных інстытуцый такога тыпу.



Мікола Ганько і Анатоль Бутэвіч на Першым з'ездзе беларусаў свету.

# АНАТОЛЬ БУТЭВІЧ

У 1993 годзе міністр інфармацыі і друку Рэспублікі Беларусь.

**– Як паставілася беларуская дзяржава да Першага з'езда беларусаў свету – падзеі, якая аб'яднала нацыю пасля дзесяцігоддзяў "жалезнай заслоны"? Што, на Вашую думку, магло б атрымацца ў выніку максімальнага ўключэння дыяспары ў грамадскія, сацыяльныя і палітычныя працэсы Рэспублікі Беларусь? Што беларуская дзяржава мусіць зрабіць, каб гэтаму паспрыяць?**

– Першы з'езд беларусаў свету стаў на той час мо самай значнай падзеяй у грамадскім, культурным і палітычным жыцці Беларусі і ў стасунках з замежнымі беларусамі. Ён акрэсліў шляхі, якія павінны былі ўсіх цесна згуртаваць дзеля адной галоўнай мэты – пабудовы свабоднай і незалежнай дзяржавы Беларусь. Гэты найважнейшы лейтматыў на доўгі час зрабіўся той дабратворнай сілай, якая спараджала і працягвае спараджаць нямала добрых агульных спраў, да якіх далучаюцца, як маральна, гэтак і матэрыяльна, многія нашыя замежныя землякі і нават тыя, хто ўжо нарадзіўся за межамі нашай краіны. Праўда, не ўсе добрыя намеры атрымалася здзейсніць. Але гэта ніякім чынам не азначае, што распачатае трэба кінуць, пра свае родныя землі і малыя радзімы забыцца і зноў пазашывацца па куточках, стаіцца і аціхнуць. Разам мы на многае здатныя, многае можам зрабіць. Таму – насуперак усяму і ўсім незычліўцам – давайце быць разам! Гэта і будзе той рэальнай справай, якая паспрыяе новым добрым і карысным намерам і здзяйсненням. Але пры адной умове: сённяшняя Беларусь не павінна забывацца на сваіх дзяцей, дзе б яны ні былі, не павінна ігнараваць іхнія памкненні і магчымасці. Іх усіх трэба далучаць да грамадскіх, сацыяльных і культурных працэсаў у Беларусі. А з'езды, і Першы, і наступныя, – добрая нагода зверыць арыенціры, прачысціць дарогу і разам рухацца па шляху ўмацавання суверэнітэту і незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Не трэба баяцца цяжкасцяў, іх заўсёды хапала. Стоячы на адным баку дарогі, на другі яе бок не пяройдзеш, калі не будзеш ісці. Трэба рухацца. Разам і няспынна. У гэтым наша перамога і наша агульная сіла.

гутарка

# БАРЫС СТУК

У 1993 годзе старшыня Рады прадпрымальнікаў беларускага замежжа, намеснік старшыні Рады ЗБС "Бацькаўшчына".

**– Вядома, што падчас З'езда паўсталі важныя ініцыятывы, якія пазней былі рэалізаваныя – гэта стварэнне арганізацыі прадпрымальнікаў беларускай дыяспары і аднаўленне вобраза Крыжа св. Еўфрасінні Полацкай. Распавядзіце, калі ласка, як гэтыя дзве ініцыятывы ўзніклі.**

– Важна адзначыць, што напярэдадні Першага з'езда беларусаў свету ў снежні 1992 года адбыўся Першы з'езд беларусаў блізкага замежжа. Гэта была вельмі важная падзея (цяпер, на жаль, забытая), таму што з развалам СССР шматлікія беларусы ў былых савецкіх рэспубліках апынуліся ў складаным становішчы. Перад імі паўстала шмат пытанняў. Як будаваць сваё жыццё ў новых незалежных краінах? Якая можа быць падтрымка з боку Рэспублікі Беларусь? На якіх умовах можна вярнуцца на Радзіму?

А ідэя стварэння Згуртавання прадпрымальнікаў беларускай дыяспары ўзнікла на падставе той вялікай прадпрымальніцкай працы, якую выконвала ў тыя часы гаспадарча-эканамічная структура "Бацькаушчыны" (напрыклад, Згуртаванне фінансавала згаданы Першы з'езд беларусаў бліжняга замежжа і Першы з'езд беларусаў свету фактычна толькі за грошы, зробленыя самой арганізацыяй – у той час ахвяраванні былі нязначныя), а таксама на падставе тых прадпрымальніцкіх сувязяў, якія былі назапашаны на той час. Шмат прадпрымальнікаў беларускага паходжання былі зацікаўленыя ў стварэнні агульнай каардынуючай структуры, якая б спрыяла іх бізнесу. Гэты праект на пачатку 1993 года быў ухвалены Управай ЗБС "Бацькаушчына", а потым быў ухвалены дэлегатамі Першага з'езда беларусаў свету. У часе працы З'езда прайшла ўстаноўчая канферэнцыя, была створаная грамадская арганізацыя Згуртаванне прадпрымальнікаў беларускай дыяспары пры ЗБС "Бацькаўшчына", была абрана кіруючая Рада, і мяне абралі яе старшынёй.

Ідэю аднаўлення Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай выказвалі розныя сябры Управы Згуртавання, у тым ліку – я сам, Яўген Лецка, Ганна Сурмач ды іншыя яшчэ ў сярэдзіне 1992 года.

Святая Еўфрасіння Полацкая прызнаная ўсімі хрысціянскімі канфесіямі ў Беларусі, і аднаўленне Крыжа – гэта аднаўленне аб'яднаўчага сімвала беларускага народа! Праект такога ўзроўню мусіў дапамагаць гуртаваць беларусаў на Бацькаўшчыне і за межамі краіны. Ідэю ўхвалілі на чарговым паседжанні Управы, а ў снежні 1992 года ўхвалілі дэлегаты Першага з'езда беларусаў блізкага замежжа. У выніку была створаная працоўная група па рэалізацыі праекта. У лютым 1993 года з мастаком М. Кузьмічом была заключана дамова на выкананне працы па аднаўленні Крыжа. Пытанне рэалізацыі праекта таксама было вынесена на разгляд дэлегатаў Першага з'езда беларусаў свету і аднагалосна ўхвалена.



"Кола яднання" – удзельнікі Першага з'езда запальваюць свечкі пасля канцэрта ў Оперным тэатры.

**– Самыя яркія ўспаміны са З'езда, што запомнілася найбольш?**

– Галоўнае ўражанне ад Першага з'езда беларусаў свету – тое, што ўпершыню беларуская нацыя аб'ядналася. Незалежна ад краін пражывання, поглядаў, веравызнання ды інш. Фактычна дзяржава прызнала існаванне шматмільённай беларускай дыяспары (больш за 5 млн беларусаў). Такім чынам фармаваўся падмурак беларускай дзяржаўнасці.

# ІНА СНАРСКАЯ

Сябра Рады ЗБС "Бацькаўшчына".

**– Што запомнілася найбольш? Якія моманты З'езда падаліся Вам самымі яркімі?**

– З падзей Першага з'езда мне найбольш запомніўся выступ Васіля Быкава. Яго сустракалі стоячы. Ніколі не забуду ўзнёслай атмасферы З'езда. Мы былі такія маладыя, поўныя спадзяванняў на адраджэнне Беларусі, радаваліся сустрэчам з аднадумцамі. Мы размаўлялі па-беларуску і між сабой, і з жыхарамі Мінска. Людзі прыязна пасміхаліся, намагаліся адказваць нам на роднай мове. Дзівіліся, што жывучы ў розных краінах свету, мы так добра гаворым па-беларуску. Сярод найбольш яскравых момантаў – фінальны акорд З'езда, калі ўсе яго ўдзельнікі і арганізатары стаялі на прыступках Опернага тэатра са свечкамі ў руках і спявалі "Магутны Божа".

**Гутарыў Сяргей Кандрацэнка, прэс-сакратар ЗБС "Бацькаўшчына"**



Іна Снарская выступае на Сёмым з'ездзе беларусаў свету. 2017 год.

## Беларускі каляндар памятных дат на жнівень 2018 года

2 жніўня – 185 гадоў таму, у 1833-м, павешаны Міхаіл Валовіч, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

2 жніўня – 65 гадоў таму, у 1953-м, памёр Сяргей Скандракоў, краязнавец.

3 жніўня – 65 гадоў таму, у 1953-м, нарадзіўся Валерый Шаблюк, гісторык.

4 жніўня – 180 гадоў таму, у 1838-м, нарадзіўся Юзаф Беркман, жывапісец, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

4 жніўня – 45 гадоў таму, у 1973-м. памёр Міхаіл Урбановіч, культурны дзеяч.

5 жніўня – 110 гадоў таму, у 1908-м, памёр Валерый Урублеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

12 жніўня – 125 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Аляксандр Ружанцоў, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

13 жніўня – 105 гадоў таму, у 1913-м, нарадзіўся Анатоль Багатыроў, кампазітар.

13 жніўня – 95 гадоў таму, у 1923-м, нарадзіўся Самсон Пярловіч, паэт.

14 жніўня – 145 гадоў таму, у 1873-м, памёр Антон Руткоўскі, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

14 жніўня – 60 гадоў таму, у 1958-м, памёр Эдзюк (Эдвард) Будзька, паэт.

15 жніўня – 160 гадоў таму, у 1858-м, нарадзіўся Міхаіл Пліс, грамадскі дзеяч.

15 жніўня – 30 гадоў таму, у 1988-м, памёр Мікалай Дварэцкі, паэт.

16 жніўня – 115 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Мікола Абрамчык, дзеяч эміграцыі ў Чэхі, Францыі і Нямеччыне, прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі.

17 жніўня – 155 гадоў таму, у 1863-м, расстраляны Іван Жмачынскі (Змачынскі), удзельнік нацыянальна-вызваленчага паўстання.

17 жніўня – 15 гадоў таму, у 2003-м, памёр Павел Гуз, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

19 жніўня – 170 гадоў таму, у 1848-м, памёр Міхаіл Палінскі-Пэлка, матэматык.

19 жніўня – 125 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Баляслаў Слосканс, дзеяч беларускага замежжа.

19 жніўня – 75 гадоў таму, у 1943-м, памёр Іосіф Воўк-Левановіч, мовазнавец.

20 жніўня – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Уладзімір Пракулевіч, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання.

22 жніўня – 120 гадоў таму, у 1898-м, памёр Альгерд Абуховіч, пісьменнік, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

22 жніўня – 30 гадоў таму, у 1988-м, памёр Віталь Вольскі (сапр. Вольскі-Зэйдэль), пісьменнік.

23 жніўня – 125 гадоў таму, у 1893-м, памёр Міхаіл Андрыёлі, мастак, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

24 жніўня – 120 гадоў таму, у 1898-м, нарадзіўся Сцяпан Журык, вучоны-заолаг.

24 жніўня – 90 гадоў таму, у 1928-м, нарадзіўся Янка Раманоўскі, мастак.

25 жніўня – 70 гадоў таму, у 1948-м, у Стакгольме створана Беларуская Грамада ў Скандынавіі.

29 жніўня – 120 гадоў таму, у 1898-м, нарадзіўся Аляксандр Немцаў, этнограф.

31 жніўня – 250 гадоў таму, у 1768-м, нарадзіўся Раймонд Корсак, паэт, удзельнік паўстання 1794 г.

**Беларусы ў свеце**
No 7 (194), ліпень 2018

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27